Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 33 8-14 снежня 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Заканчваецца падпіска на паўгоддзе, кошт якой на "РГ"— 24 тысячы рублёў. Аднак пасля 10 снежня вы ўсё адно можаце падпісацца— на месяц, тры, пяць. У любым аддзяленні сувязі Беларусі. Кошт месячнай падпіскі роўны ўсяго 4 тысячам.

**Наш індэкс— 63212.**

## Сельсавет у агні

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН. З надыходам зімы над вёскай Гранічы, напэўна, навісла "чорная хмара" непрыемнасцяў.***

1 снежня вяскоўцы прачнуліся і пачулі навіну– абкрадзены мясцовы магазін. Злачынец узламаў дзверы качагаркі, праламіў сцяну і такім чынам трапіў у гандлёвы аддзел. Запатрабаванні яго не былі вялікімі. З сабою прыхапіў гарэлку, кансервы і што-нішто іншае.

Яшчэ не паспелі знайсці злачынцу, як праз тры дні, у ноч на аўторак, сяляне былі абуджаны новым здарэннем. Чырвоным полымем гарэў сельсавет. Кінуліся тушыць агонь. Але будынак мясцовай улады згарэў дашчэнту. Няма падставы лічыць гэта падпалам. Прычынай узгарання, хутчэй за ўсё, стала няспраўнасць пячнога ацяплення.

***Святлана САРОКА.***

10 снежня– другі тур паўторных выбараў у ВС і мясцовыя Саветы

## Як пасварыліся Краўчанка з Карпенкам

У вядомым творы Мікалая Васільевіча Гогаля дзейныя асобы пасварыліся з-за гусака. Маладзечна– горад, ну вельмі палітызаваны, таму асноўныя разборкі адбываюцца на палітычнай сцэне, бо слова не гусак, пабяжыш– не схопіш.

17 лістапада кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь грамадзянін Карпенка Анатоль Пятровіч, выступаючы па мясцоваму радыё, заявіў, што яго асноўны канкурэнт па выбарчай акрузе грамадзянін Краўчанка Пётр Кузьміч увайшоў у элітны нацыянальны клуб "Захад-Усход" і выклаў у якасці ўступнага ўзносу 20 тысяч долараў ЗША, тым самым падкрэсліў, што Пётр Кузьміч чалавек вельмі багаты і жыве не па сродках.

Я, праўда, таксама лічу, што спадар Краўчанка не бедны (у параўнанні са мною). Але ведаю: каб рабіць такую заяву па радыё, трэба быць упэўненым, як кажуць, на ўсе сто.

Цікава было б паслухаць дзеючых асоб. На жаль, мы змаглі звязацца толькі з Пятром Кузьмічом і запісалі на дыктафон тэлефонную размову з кандыдатам у дэпутаты:

"У гэты ж дзень, 17 лістапада,–сказаў Пётр Кузьміч,–я звярнуўся ў Маладзечанскі гарадскі суд з іскам-заявай аб абароне гонару і годнасці, каб прыцягнуць да адказнасці грамадзяніна Карпенку за хану і паклёп, распаўсюджванне плётак супраць мяне і маёй сям'і. У гэты ж дзень іск зафіксіраваны і прыняты да разгляду. Першае пасяджэнне адбылося 27 лістапада і Анатоль Пятровіч на яго не з'явіўся. Першага снежня адбылося другое пасяджэнне суда, на якім грамадзянін Карпенка заявіў, што са справай не знаёмы, да разгляду не падрыхтаваны. І катэгарычна адмовіўся прымаць удзел у судовым разглядзе да 10 снежня.

На пытанне суддзі, ці ёсць у яго дакументы, якія пацвярджаюць інфармацыю, грамадзянін Карпенка адказаў адмоўна."

Як стала вядома, паўторнае пасяджэнне суда адбылося 6 снежня. На ім Краўчанка заявіў аб змяншэнні сумы іску з 20 да 2 мільёнаў рублёў па той прычыне, што адказчык– пенсіянер.

Падводзячы вынікі судовага разбіральніцтва (на якое, дарэчы, Карпенка не прыйшоў ізноў), можна ўжо гаварыць, што Краўчанка выйграў справу. Калі праз 10 дзён рашэнне суда ўступіць у сілу, па мясцовым радыё прагучыць абвяржэнне. А два мільёны Краўчанка, па яго словах, перадасць на патрэбы хворых.

***Васіль САВІЦКІ.***

## "Наша ведамства ніколі не застанецца без работы"–

***Лічыць начальнік Радашковіцкага аддзялення міліцыі падпалкоўнік Пётр Спецыян. Гэта аддзяленне было створана ў кастрычніку 1992-га і налічвала 11 чалавек. Са студзеня 1994-га — дзевяць разам з начальнікам. Абслугоўвае тэрыторыю ў 64,5 кв. км з насельніцтвам 9,5 тыс. чалавек. І хоць кожны мае свае непасрэдныя абавязкі, спецыялізацыі няма, бо ўчастковаму прыходзіцца расследаваць крымінальныя справы, а следчаму мірыць жонак з мужамі.***

Аддзяленне знаходзіцца ў былым будынку бібліятэкі, арэндуемым у аб'яднання "Белмастацкераміка". Зімой усе туляцца ў адным пакойчыку, дзе дзве печкі, якія топіць прыбіральшчыца. Зарплату ёй плацяць з грошай, што адлічваюць пассавету тая ж "Белмастацкераміка" ды керамічны завод. Свайго транспарту аддзяленне фактычна не мае. Калі дзе што здарыцца – на выклікі міліцыянеры дабіраюцца на папутцы, ці на сваіх двaіх. Пра нейкую аператыўнасць у такіх умовах гаварыць непрыстойна.

І ўсё ж, усё ж аддзяленне працуе. Кожнае сёмае з дзесяці злачынстваў раскрыта. А працы сапраўды хапае. Калі ў 1993 г. было здейснена 60 крымінальных злачынстваў, у мінулым - 90, то за 11 месяцаў гэтага года - 120. У асноўным крадуць. Крадуць у дзяржавы, крадуць у людзей. Каля двух гадоў крадзяжы не давалі спакою на керамічным заводзе. Злачынцаў затрымалі і пакаралі. Але вельмі своеасаблiва. Калі ім, як кажуць, "свяціла" ад 8 да 15 гадоў, то яны атрымалі толькі па два гады папраўчых работ. А чалавек з Дзікшнян, што ўкраў два мяшкі мукі, атрымаў тры гады пазбаўлення волі.

Іншы раз Пётр Пятровіч пытае сябе: "Ці варта лавіць злодзеяў, што крадуць мільёны?". І сам сабе адказвае: "Варта". Таму што дзяржава даверыла гэту справу. Чалавек у пагонах павінен быць прыкладам для іншых. Добра працуюць у аддзяленні С. Троцкі, В. Скаскевіч, В. Сарока.

Пётр Пятровіч падтрымлівае цесныя кантакты з кіраўнікамі прадпрыемстваў і ўстаноў, стараецца, каб у сеняшніх умовах усё ж людзям жылося спакойней. На жаль, гэта залежыць не толькі ад міліцыі. Як пражыць сям'і з чатырох чалавек на 400-500 тысяч? Што сказаць гаспадару сваім дзецям, калі няма за што купіць хлеба?

Пётр Пятровіч лічыць, што вырашэнне эканамічных праблем зменшыць крымінальную напружанасць. У міліцыі стане менш працы, але яна застанецца, хаця б прафілактычная. Што ж, дай Бог! А пакуль мы размаўлялі, паведамілі пра чарговы крадзеж і В. Скаскевіч пайшоў лавіць спадарожную машыну.

***Мікола ЛІННІК.***

З міліцэйскіх крыніц

## Сцеражыся іншамаркі

***Непрыемнае гэта надвор'е, калі дождж чаргуецца са снегам. І невялікі мароз. Для вадзіцеля ўсялякага аўтатранспарту— небяспека.***

Асабліва, чамусьці, для іншамарак, калі лічыць па здарэннях апошніх дзён. Няўжо горшыя за звычайныя "Жыгулі" ды "ГАЗы"?

На шашы Мінск-Нарач ля вёскі Красоўшчына а 15-й гадзіне 30 лістапада Валерый Найдовіч не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў трактар, які стаяў на абочыне. Трактарыст Віктар Мазалеўскі з Красоўшчыны не пацярпеў. А вось уладальнік іншамаркі, які быў пазбаўлены вадзіцельскага пасведчання, і яго пасажыр 24-гадовы Сяргей Скварцоў з Заслаўя пакалечыліся.

У 18 гадзін 26 лістапада на вул. Касманаўтаў у Маладзечне невядомая іншамарка цёмнага колеру (мяркуюць, што хутчэй за ўсё "БМВ"), наехала на пешахода Антона Дасюкевіча, які пераходзіў дарогу. На ўрад ці не звярнуў увагі вадзіцель іншамаркі на гэта здарэнне. Не збавіць хуткасць яму дазволіла адсутнасць сумлення.

У гэты ж дзень ноччу ля скрыжавання шашы Мінск-Нарач і Мінск-Вільнюс адбылася жудасная трагедыя. У "Мерседэсе" знаходзіліся амаль дзеці: пятнаццацігадовая Надзея Юзэпчук, 19-гадовы Уладзімір Пасуднеўскі, 17-гадовыя Андрэй Тарасевіч і Святлана Бобрыкава. Іх юны сябр Руслан Б. не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і наехаў на дрэва. У цяжкім стане падлеткаў шпіталізавалі. Руслан памёр ад траўмаў.

Таксама ў цяжкім стане быў шпіталізаваны 3 снежня 22-гадовы Уладзімір Ракоўскі з вёскі Малашкі. Ён на трактары паварочваў на Асавец з аўтадарогі Краснае-Раёўка. Не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перакуліўся.

Так. Галалёд– вялікая небяспека. Але не адзіная прычына трагедый. Як кажуць вадзіцелі іншы раз: справа была не ў бабіне...

***Святлана САРОКА.***

## "Мару" – у бліжняе замежжа.

***У поўным асартыменце вытворчае аб'яднанне "Белпласт" прадставіла на выстаўку ў Маскву, якая праходзіла ў лістападзе, не толькі ўласную прадукцыю, але і вырабы ўсіх сваіх філіялаў.***

Без перабольшвання скажу, што наборы для ванных пакояў "Мара", "Камфорт", "Белпласт-1", наборы для туалета, якія выпускаюць у Валожыне, упрыгожвалі беларускую экспазіцыю.

Асаблівую прывабнасць гэтыя зручныя прылады для ванных пакояў набылі з прымяненнем у вытворчасці нямецкага фарбавальніка "пад мармур".

Нездарма прадукцыя валожынскіх вытворцаў прыйшлася даспадобы ў блізкім замежжы. Прама ў час выставы было заключана шмат дагавораў з расійскімі фірмамі.

У бягучым месяцы завод працуе без прастояў, на поўную магутнасць.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***



## Арганізацыі розныя, мэта адна.

***Яшчэ ў арміі Ігар Глебец пачаў задумвацца аб тым, чаму латышы, літоўцы, украінцы так ганарацца сваёй нацыянальнасцю, падкрэсліваюць сваё паходжанне, размаўляюць між сабой на роднай мове, а беларусы называюць усё гэта "нацыяналізмам"?***

Пошук адказаў на гэтыя і многія іншыя пытанні, прывёў Ігара ў Аб'яднанне Беларускай Патрыятычнай Моладзі, якое створана ў Маладзечне год таму пад кіраўніцтвам Сяргея Юркевіча.

Аб'яднанне нешматлікае, але заявіла ўжо аб сабе разнастайнымі мерапрыемствамі, акцыямі па адраджэнню беларускай культуры, мовы.

Каб не варыцца ў сваім саку, АБПМ імкнецца да супрацоўніцтва і з іншымі нефармальнымі арганізацыямі. Да прыкладу, месяц таму яно дэкларавала аб агульнасці прынцыповых мэтаў сваёй дзейнасці з Беларускай Партыяй Свабоды. У сувязі з гэтым дзве арганізацыі канстатуюць узаемаразуменне і гатоўнасць да супрацоўніцтва ў галіне культуры і спорту, ідэалагічнай дзейнасці, інфармацыйнага абмену і г. д.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

## "Зямлі маёй і землякам!"

***— пад такой назвай праходзяць у Валожыне стаўшыя традыцыйнымі творчыя сустрэчы-знаёмствы з мясцовымі паэтамі, мастакамі, іншымі цікавымі людзьмі горада. Апошняя сустрэча ўяўляе сабой вернісаж жывапісу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.***

Наведвальнікі раённага Дома культуры змаглі пазнаёміцца з сакрэтамі ручной вышыўкі. Шафёр, рабочы, медык, былая таваразнаўца, а цяпер пенсіянерка падарылі святло свайго захаплення ўдзячным гледачам. Леанід Міхайлавіч Пятроўскі, Міхаіл Аляксеевіч Ушацкі робяць упэўненыя творчыя крокі ў жывапісе, Ніна Аляксандраўна Корабава лічы з дзяцінства ў вольны час не выпускае з рук пяльцаў. Ала Мікалаеўна Стасюлевіч стварае непаўторныя вырабы з прыроднага матэрыялу – карэньчыкаў, галінак, любіць пасядзець за мальбертам з пэндзлем у руках.

Выстаўку работ гэтых таленавітых людзей, якая была разгорнута ў фае Дома культуры, наведалі ўжо больш за 1000 валожынцаў.

***Ірына ПАШКЕВІЧ***

## Ёсць шанц выйграць радыёпрыёмнік. І не толькі яго.

***Польскае радыё для замежжа — V праграма— арганізавала ў снежні конкурс для слухачоў радыёперадач на беларускай, літоўскай, расійскай, украінскай і чэшскай мовах.***

Сярод тых, хто ў снежні слухае нашы перадачы, будуць разыграныя два радыёпрыёмнікі ды шматлікія іншыя ўзнагароды.

У рапартах пра чутнасць беларускамоўных перадач з Варшавы павінна быць такая інфармацыя, як: дата, час, хваля і ацэнка чутнасці, а таксама кароткія заўвагі пра змест перадачы.

Вашых рапартаў будзем чакаць да паловы студзеня 1996 г. Просім дапісаць на канверце "Конкурс".

Прозвішчы тых, каму паспрые лёс, будуць пададзены да публічнага ведама ў нашым эфіры ў лютым будучага года. Усе, хто атрымае ўзнагароды ў нашым конкурсе, будуць праінфармаваны аб гэтым таксама і ў пісьмовай форме.

Зычым Вам многа шчасця і чакаем вашых рапартаў.

***Наш адрас: Беларуская рэдакцыя польскага радыё, 00-977, Варшава, паштовая скрынка 46, Польшча.***

